


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 4 (638)**
**Красавік 2019 г.**


## Мітынг ля Кансуляту РБ на Мангэтане




На Мангэтане 23-га сакавіка пры 44-й вуліцы і 3-й авэню адбыўся мітынг, прысьвечаны 101-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці БНР, супольна зладжаны Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня" і Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА). Мэтаю мітынгу было выказаць пратэст супраць дыктатуры і пагрозы расейскай інтэрвэнцыі ў Беларусі, а таксама заявіць аб падтрымцы нацыянальных сілаў у Беларусі, што супрацьстаяць тыраніі, уціску беларускай нацыянальнай культуры. Штодня павялічваецца пагроза расейскага ўмяшаньня. Ня выключана, што ў пэўны момант той сёрфінг на хвалях расейскага рэваншызму, які праводзіў апошнія 24 гады кіраўнік РБ, што даўно перастаў быць легітымным, давядзе да катастрофы. Таму супрацьстаяньне патэнцыйнай расейскай агрэсіі, якая у некаторых сфэрах, як інфармацыя і масавыя сродкі, ужо даўно стала рэальнасьцю – было адною з галоўных мэтаў мітынгу.

Напачатку старшыня "Пагоні" сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных і коратка распавёў пра сытацыю ў Беларусі, акрэсьліў мэты імпрэзы. Затым слова ўзяў нацыянальны дзеяч Беларусі, першы сяродаднавіцеляў незалежнасьці ў 1991 годзе, старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён падзякаваў прысутным за актыўнасьць і падтрымку і распавёў перадгісторыю здабыцьця беларускай незалежнасьці ў найноўшым часе. Сп. Пазьняк таксама спыніўся на небясьпецы расейскай агрэсіі, якая штодня робіцца ўсё мажлівейшай, і падрэсьліў, што ўжо тысячы беларусаў выказалі сваю рашучасьць супрацьстаяць агрэсіі з усходу са зброяй у руках.

Пасьля выступіў сп. Валер Мінец, сябар Руху "За Свабоду", экс-кандыдат на мясовых выбарах у Лідзе, які нядаўна прыехаў зь Беларусі. Ён прывітаў прысутных, распавёў пра бягучыя падзеі на Бацькаўшчыне, пра забароны ўладаў сьвяткаваць Дзень Волі, пра рашучасьць беларускіх патрыётаў працягваць змаганьне за вяртаньне свабоды.

Старшыня Нью-Ёрскага (колішняга Бруклінскага) аддзелу БАЗА сп. Сяргей Кудзеліч прывітаў прысутных ад імя БАЗА, распавёў пра ролю моладзі ў гуртаваньні нацыянальных сілаў і ўзмацненьні салідарнасьці. Ён таксама запрасіў прысутных на маючае адбыцца на наступны дзень сьвяткаваньне Дня Волі ў залі пры саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

З прамоваю перад прысутнымі выступіў сп. Юры Беленькі, дзеючы старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ, дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня, што таксама браў удзел у аднаўленьні незалежнасьці Беларусі. Прамоўца спыніўся на асаблівасьцях бягучага моманту ў Беларусі, на дзейнасьці партыі КХП-БНФ па абароне незалежнасьці і згадаў той пэрыяд, калі дзейнасьць фракцыі БНФ у парлямэнце колішняй БССР зрабіла рэальнасьцю абвешчаньне сувэрэнітэту і здабыцьцё незалежнасьці Беларусі.

Былі прамоўленыя імёны нацыянальных і гістарычных дзеячоў, што аддалі сілы і жыцьці для славы і незалежнасьці Беларусі: браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Макар Краўцоў, Алесь Гарун, Палута Бадунова, Язэп Лёсік, Кастусь Езавітаў, Усевалад Ігнатоўскі, Янка Купала, Зьмітрок Бядуля, Вацлаў Іваноўскі, Якуб Колас, а таксама Максім Багдановіч, Кастусь Каліноўскі. Прысутныя адказвалі на кожнае імя: "Вечная слава!"

Потым прысутныя на мітынгу людзі самых розных узростаў, але пераважна моладзь, прайшлі, скандуючы лёзунгі "Жыве Беларусь!", "Беларусь – так! Лукашэнка – не!", "Свабоду Беларусі!", вакол блёку, дзе месьціцца кансулят РБ. Мінакам раздаваліся ўлёткі. Пасьля мітынгу прадстаўнікі "Пагоні" і БАЗА паінфармавілі пра свае наступныя імпрэзы, у якіх можна ўзяць удзел.

***Віталь ЗАЙКА***

## Чарнобыльскі мітынг

**Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне "ПАГОНЯ"** правядзе мітынг, прысьвечаны 33-й гадавіне аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Акцыя адбудзецца **26-га красавіка 2019 году** каля будынку штаб-кватэры Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў на Мангэтане па адрасу:

***1st Avenue & East 43rd Street, New York, NY 10017.***

Пачатак акцыі **а 1-й гадзіне папаўдні**.

Далучайцеся да мітынгу з сябрамі і знаёмымі, каб нагадаць сьвету аб радыяцыйнай катастрофе беларускага народу і аб небясьпецы выкарыстаньня ядзернай энэргіі.

# Сакавіцкі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 9 сакавіка, у Доме Маракоў на Мангэтане адбыўся чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў для асобаў, што прыйшлі на сход упершыню, пра арганізацыю і пра ейную дзейнасьць. Ён таксама згадаў нядаўна прайшоўшы традыцыйны абрад Гуканьня вясны, што быў праведзены ў Осынінгу, Нью Ёрк, і маючае адбыцца ў чэрвені сьвята Купальля, а таксама паведаміў пра заплянаваны на 23 сакавіка канцэрт да Дня Волі. Затым слова ўзяў госьць Згуртаваньня “Пагоня” сп. Сяржук Сай, музыка, які з чатырма калегамі зарганізаваў музычны гурт “Казінак”, які будзе выступаць у тым ліку на канцэрце 23 сакавіка. Сп. Сяржук Сай распавёў пра сябе, пра свой шлях да беларушчыны. Сам ён паходзіць з Клічава, вучыўся ў БАТУ (Аграрным тэхнічным унівэрсытэце), пасьля падзеяў 19 сьнежня 2010 году быў арыштаваны, правёў месяц за кратамі ў Жодзіне. Потым жыў у Маскве і там, дарэчы, стварыў свой першы музычны гурт. Быў праект “Крумкач”. Цяпер жыве ў Нью-Ёрку, і гэта, пэўна, лёс вядзе, што вось цяпер трапіў і на сход “Пагоні”. Потым прамоўца распавёў пра назву гурта. “Казінак” – гэта нібы пыймальнае па гучаньні слова на ўсіх мовах і даволі лёгка на іх вымаўляецца. Ён дадаў: “Наш праект – дзіця Нью-Ёрку, а вы – нашая аўдыторыя. І акурат на музычнай, культурніцкай падставе нам лягчэй гуртавацца, сыходзіцца разам. На палітычнай падставе гэта зрабіць цяжкавата. Хацелася б у будучыні рабіць


Сяржук Сай і Ўладзімер Косак

розныя імрэзы, акустычныя вечарыны. Зрабілі лягатыпы гурта, будзем прасоўваць яго. Наагул, калі хто мае якія ідэі – адгукайцеся, будзем разам іх рэалізоўваць. Ганна Шарко і Аляксандар Мазгавы прапанавалі выступіць, і вось 23 сакавіка паспрабуем паказаць, што мы за гурт, і на што мы здольныя.”

Затым сп. Сяржук Сай адказаў на пытаньні прысутных, у прыватнасьці, пра гурт і пра сваё ўспрыманьне беларушчыны. “Чым больш удасканальваюся ў беларускай культуры, тым большае захапленьне яна выклікае ў мяне. Вось такі невялічкі прыклад – слова расейскае “подчіняться” і беларускае “падпарадкавацца”. Калі разабраць этымалёгію, бачым, што расейскае слова, расейскі сэнс – чын, гіерархія. А беларускае – парадак, закон. І ў гэтым адлюстроўваецца рознае ўспрыняцьце чалавека і грамадзтва. Таму, чым больш мы ведаем пра свае карані – тым больш разумеем і сябе, і сьвет, што вакол нас”.

Затым перад прысутнымі выступіў гітарыст гурта Ўладзімер Косак, распавёў пра сябе, сваё захапленьне гітарай. Вучыўся ў Польшчы, ва Ўроцлаве, і цяпер у Нью-Ёрку. Затым Сяржук і Ўладзімер выканалі некалькі песень з рэпэртуару Лявона Вольскага, якія былі цёпла сустрэтыя прысутнымі.

Затым у разьдзеле “Рознае” адбыліся знаёмствы з іншымі гасьцямі “Пагоні”, прагучэлі аб’явы і паведамленьні, выступілі Валер Мінец зь Ліды і Яўгенія Новікава зь Віцебску. Пасьля прысутныя мелі магчымасьць працягнуць знамствы пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

# Колькі б не было гадоў нам, а ў душы заўжды вясна

Дзесяць гадоў запар зьбіраюцца беларусы на маляўнічым беразе Гудзону ў штаце Нью-Ёрк у мястэчку Осынінг, каб гукнуць вясну-красну. З кожным годам імпрэза зьбірае ўсё больш людзей. Сёлета 3-га сакавіка нас сабралася 80 чалавек. Не спалохаў і неспрыяльны прагноз надвор’я. Наадварот, ён надаў імпэту й пачуцьця неабходнасьці правесьці гэты абрад.

Сям’я Алены і Пётры Рыжых прыехала самай першай, бо яны ўзялі на сябе адказнасьць за прыгатаваньне пачастункаў загукальнікам. Гэта ж ня жартачкі, каб прыгатаваць столькі страваў ды ўсіх накарміць, перш чым тыя пойдуць гукаць вясну. Чаго там толькі не было! Суп гарохавы й суп грыбны. Традыцыйная каша грэчневая з гуляшом, розныя салаты, пірагі з макам. А самым экзатычна-традыцыйным пачастункам былі ўсё ж бліны, як сымболь сонца, якія можна было есьці з рознымі прысмакамі запіваючы каваю, гарбатаю або кампотам. І хочацца выказаць асаблівую падзяку сярэдняму сыночку спадарства Рыжых Алесю, які самастойна й па-мастацку напёк ажно 300 бліноў .

заканчэньне на бачыне 3



# Канцэрт “Музычны Fresh” у Нью-Ёрку



У суботу 23-га сакавіка ў бары *Nublu* на Мангэтане прайшоў “Музычны Fresh” – вечарына і сьвяточны канцэрт, падрыхтаваныя суполкай “Беларусы ЗША. Разам лягчэй” і Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем “Пагоня”. На імпрэзу прыехалі беларусы зь Нью-Ёрку і Нью-Джэрзі, а таксама з Маямі, Бостану і Філядэльфіі. Вяла імпрэзу арганізатарка, кіраўнічка групы “Беларусы ЗША. Разам лягчэй” бліскучая сп-ня Ганна Шарко, якая ўдала мабілізавала публіку, абвяшчала выступоўцаў, вяла забаўляльныя нумары і лятарэю. Перад прысутнымі выступілі дэбютанты вечару – нью-ёрскі гурт *Kazinak* (салісты Сяржук Сай і Каця Нікіценка, бас-гітарыст Аляксандар Хацкевіч, сола-гітарыст Уладзімер Косак, бубнач Дзяніс Ігнацюк). Яны прэзэнтавалі сваю праграму, і былі надзвычай энтузіястычна сустрэтыя прысутнымі. Таксама горача сустрэлі саліста вядомага гурта *ZnaROCK* Яўгена Сокалава, і яшчэ аднаго дэбютанта нью-ёрскай сцэны, сьпевака і музыку Германа Жыгалу. Выдатна зарэкамэндаваў сябе ў падрыхтоўцы музычных нумароў дыджэй Вадзім Крывавяз. Сярод прысутных асабліва вызначыліся энэргіяй і актыўнай рэакцыяй на музыку Паліна Ўсовіч, Яўген Іванюк, Анатоль Цяценькін, Яўгенія Васілеўская і Алесь Тур. Імпрэзу таксама наведалі прадстаўнікі старэйшай генэрацыі беларусаў Нью-Ёрку і ваколіцаў, якіх асобна прывітала сп-ня Шарко ў сваім выступе напачатку імпрэзы.

Вялікая падзяка арганізатарам у складзе: Ганна Шарко, Аляксандар Мазгавы, Яўген Іванюк, а таксама беларуска-ўкраінскаму фундатару *UkrEcoGoods* за памятныя падарункі гасьцям, а “МазгаБойні ў Нью-Ёрку” і *TIKOTA UNIQUE* за прызы для лятарэі. Па словах удзельнікаў і арганізатараў, “гэта быў сапраўды незабыўны вечар, напоўнены беларускай і ня толькі музыкай, а таксама цёплымі і шчырымі эмоцыямі!”

**Віталь ЗАЙКА**

*Фатаздымкі Сержа Трыгубовіча і Вольгі Талатыньнік*





## Колькі б не было гадоў нам, а ў душы заўжды вясна

*заканчэньне з бачыны 2*

Мне давялося загукальнікаў апрануць у строі і, падсілкаваўшыся, вясёлай гурбою мы выйшлі да рэчкі, сфатаграфаваліся для гісторыі, потым сталі ў круг, узяўшыся за рукі, і засьпявалі рэфрэнам:

Багаславі, Божа,
Прачыстая маці,
Зіму замыкаці,
Вясну загукаці.

Тады, стоячы ў цэнтры, я з Аленаю Рыжаю пачалі запяваць:

Ой, прыляталі два галубочка
а ўся грамада падхоплівала:
Вясна-краска на ўвесь сьвет!

І карагод рухаўся па сонцу, якое не прымусіла нас доўга чакаць, а ўзьнялося высока над нашымі галовамі, абаграваючы зямельку-матку. Крывы танок карагод “Медуніца лугавая”, які гучэў нібы гімн, разьвесяліў нас і сагрэў, бо з кожным слупком ён усё паскараўся і, здавалася, што мы ўжо й самыя, бы тыя птушкі, ляцелі ў паветры. Карагод “А мы ляда капалі, а мы проса сеялі” ўзгадалі не адразу, бо рэпэтыцыяў жа ў нас не было, затое ён разьвесяліў. Тады зноў вадзілі карагоды. Гульня “Поцяг” была сьмешнаю, але вяроўка, якую падлеткі цягалі па падталаму сьнегу, перапэцкала некаторыя нашыя строі. Затое здымкі атрымаліся вясёлыя. Вобраз зла ведзьму-лялькю Марэну ні спаліць, ні ўтапіць не атрымалася, бо мы ня мелі на гэта дазволу. Вырашылі, што спалім яе на Купальлі.

Алесь Тур са сваім сябрам Андрэем нават адважыліся паплаваць у ледзяных водах Гудзону. Але зацярушыў сьняжок, і мы вярнуліся на лодачную станцыю, дзе пад музыку працягваліся скокі й танцы.

Разыходзіліся, калі ўжо вечарэла. Зь неба сыпалася мокрая імжа, а мы вярталіся ў Нью-Ёрк. Марознае мокрае надвор’е зь ветрам пратрымалася яшчэ з тыдзень, але колькі б не лютавала зіма, ёй давядзецца саступіць дарогу вясьне. І ў гэтым ёй дапамаглі й мы сваімі загукальнымі сьпевамі, у чым можна не сумнявацца.

**Валянціна ЯКІМОВІЧ**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Кіна ня будзе - кіншчык сьпіўся

Ніякіх канцоў гісторыі ад левых разумнікаў тыпу Фукуяма мы не дачакаліся. Усё атрымалася роўна наадварот. Гісторыя быццам узяла разгон, каб зрабіць чарговае колапаўтарэньне і акунуць нас у незасвоеныя з папярэдняга цыклю памылкі. Што сапраўды скончылася – дык гэта кіно. Кіно ня ў цэлым, канешне, а кіно заходняй цывілізацыі.

Вырашыў я неяк быў правесьці вечар у таварыстве з гістарычнай драмай. Запусьціў фільм 2018 году “Mary Queen of Scots” (Мэры, каралева шкотаў) і ледзь быў не зваліўся на падлогу ад зьдзіўленьня, калі ўбачыў што ў сьвіце каралевы Англіі – Лізаветы I – панаваў такі жорсткі мульці-кульці код. Ну ладна, падумаў, можа гісторыя захавала зьвесткі пра нейкія нетыповыя для вышэйшых слаёў і каралеўскіх сем’яў таго часу ўпадабаньні. Ды не. У каралеўскай сьвіце Мэры, аказваецца, таксама кожны другі і кожная другая прыслужка імпартаваліся ці то з Афрыкі, ці то з Азіі. Аднак цьвіком у труну гэтай мульці-карціны сталася тое, што амбасадар каралевы, аказваецца, быў таксама “нярускі”. На гэтым я і прыпыніў свой прагляд ды хуценька палез у інтэрнэт вывучаць гісторыю. Можа, я што прапусьціў на занятках у школе? Можа, бальшавіцкая рэвалюцыя пачалася не ў 1917, а на брытанскіх выспах яшчэ ў 16-м стагодзьдзі?



Ды не. Аказваецца, рэжысэрка Джозі Рурк прызналася, што не зьбіралася рабіць чарговай стужкі з выключна белымі акторамі... І я тут жа зразумеў, як цяпер будзе выглядаць кіно ў Галівудзе і ў іншых філіялах на сьвеце. Рэлятывізм, які ўводзіцца ва ўсіх сфэрах жыцьця, павінен запанаваць таксама і ў кіно. Мы хутка павінны дачакацца фільмаў пра чорнага Калюмба, пра каляровых айцоў-заснавальнікаў ЗША, пра Мэрлін Манро, якую зайграе філіпінскі трансвэстыт і пра Эрнэста Хэмінгўэя з Опрай Ўінфры ў галоўнай ролі. Але ці будзе фільм, у якім чырвоныя каўбоі душаць белых індзейцаў?

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне Складкі й ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| А. Мілашэўскі | 70 |
| А. Агееў | 60 |
| Я. Бойка | 60 |
| М. Дамастой | 60 |
| К. Жукоўская | 60 |
| К. Крычаўцова | 60 |
| С. Крышталёў | 60 |
| В. Лапыш | 60 |
| А. Лышчык | 60 |
| К. Макарэвіч | 60 |
| Я. Новікава | 60 |
| В. Петрушэнка | 60 |
| М. Рахунок | 60 |
| У. Салагубік | 60 |
| В. Саяпін | 60 |
| В. Сьпеталюн | 60 |
| Н. Сямёнава | 60 |
| Д. Сямёнаў | 60 |
| А. Талочка | 60 |
| М. Троцкая | 60 |
| В. Хобатаў | 60 |
| А. Цыбулька | 60 |
| П. Юрчук | 60 |
| В. Якімовіч | 60 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў “Пагоню” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572, New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка**
***Viktar Yedzinovich.***

### Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца ў суботу **13-га красавіка 2019 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

На штомесячных сходах арганізацыі можна таксама аплаціць сяброўскія складкі і падпіску на інфармацыйны бюлетэнь.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку ў Фэйсбуку* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| А. Агееў | 30 |
| П. Байко | 30 |
| В. Балашчэнка | 30 |
| М. Дамастой | 30 |
| В. Зайка | 30 |
| К. Крычаўцова | 30 |
| С. Крышталёў | 30 |
| В. Лапыш | 30 |
| А. Лышчык | 30 |
| К. Макарэвіч | 30 |
| А. Мілашэўскі | 30 |
| Я. Новікава | 30 |
| В. Петрушэнка | 30 |
| М. Рахунок | 30 |
| У. Салагубік | 30 |
| В. Саяпін | 30 |
| В. Сьпеталюн | 30 |
| Н. Сямёнава | 30 |
| А. Талочка | 30 |
| М. Троцкая | 30 |
| П. Юрчук | 30 |
| В. Якімовіч | 30 |
| Я. Запруднік | 25 |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісчыкі “Вестак і Паведамленьняў” **В. Змушка, А. Талочка, К. Шагун, А. Шоцік,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*